ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 7 (2357) 17 лютага 1994 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 30 рублёў.

ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ

## ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І БЕЛАРУСКАЯ ІДЭЯ

Вось і звяршылася: С.Шушкевіч зняты, камуністы поўнасцю захапілі ўладу ў Рэспубліцы Беларусь. Што ж з ёю будзе цяпер далей? Няўжо яна стане міжнародным, як некалі Масква, цэнтрам сусветнага камунізму і прыйдзецца нам перавозіць маўзалей разам з ленінскай муміяй сюды ў Менск? Мясцовыя камуністы настроены рашуча і не спыняцца нават і перад кроўю. Гэта звычайная для іх справа. Давялі, застаючыся пры ўладзе, гаспадарку і наогул жыццё рэспублікі да кропкі, куды горшай, чым нават у Расіі, за якую мы жылі заўсёды лепш, і, не чуючы супраціву, абнахаліліся ўжо зусім. Думаюць, што і на гэты раз усё абыдзецца, як пасля першага жнівеньскага мяцяжу. І як абышлося ўжо пасля ГУЛАГа, Курапатаў, украінскага голаду і яшчэ ой як шмат чаго вельмі нядобрага іншага. Але пакінем гэтую непрыемную для іх альтэрнатыву і разгледзім другую, больш рэальную, спадзяюся, і прыстойную магчымасць, калі сапраўды мы збіраемся ўсе будаваць цывілізаваную, прававую дзяржаву. У гэтым выпадку перад намі выбары, і, каб перамагчы на выбарах, трэба рыхтаваць не зброю, а разумныя ідэі, трэба мудра і спакойна падсумаваць, што мы маем і што павінны рабіць і мець, каб заваяваць давер нашага затурканага, зняверанага народа, да якога камуністы заўсёды ставіліся як да быдла і які сапраўды недалёкі ўжо ад таго, каб зусім звыкнуцца з гэтым няшчасным станам.

Перш за ўсё, думаецца, для гэтага трэба разабрацца і добра зразумець, што ў нас было і што стала. Каб не змушаны былі людзі рабіць свой выбар, абапіраючыся толькі на тое, колькі каўбаса каштавала раней і колькі цяпер. Супраць такога "каўбаснага" аргумента павінен красамоўна гаварыць той факт, што наш агульны будынак пад назваю СССР пачаў гніць ужо з самага пачатку, і калі нарэшце Гарбачоў, заўважыўшы тое, уздумаў было яго крыху падрамантаваць, ён разваліўся зусім, падняўшы воблака смуроднага пылу і пахаваўшы пад сабою самога Гарбачова як палітычнага дзеяча.

Усе мы памятаем, як нам жылося раней і якою цаною абыходзіліся нам усе тыя так званыя "перамогі і поспехі", якімі затыкалі народу рот камуніcцкія прапагандысты і агітатары. Памятаем таксама, і як яны самі жылі. Але памылкаю было б тут думаць і гаварыць, што ўсё гэта было вынікам толькі нейкага злаўмыснага нядобрага намеру. Рэвалюцыі 1917 года і лютаўская перш за ўсё былі гістарычна абумоўленымі, і ўся трагедыя была ў тым, што рабіліся яны не пад тымі лозунгамі, у якія людзі, на жаль, паверылі. У Расеі, як гаварыў некалі Пляханаў, самы сумленны і думаючы сярод рускіх марксістаў чалавек, гісторыя не змалола яшчэ той мукі, з якое можна было б спячы пірог сацыялізму. Увогуле, дарога ў пекла, згодна вядомай прымаўцы, вымашчана заўсёды добрымі намерамі . Людзі, аднак, хацелі верыць у лепшае, вераць яшчэ некаторыя і цяпер, асабліва старэйшыя, тым болей, што за веру гэтую было заплачана такой вялікай цаною хоць бы ў тую ж другую сусветную вайну, калі быў знішчаны кожны чацвёрты наш супляменнік. Трэба зразумець нашых ветэранаў, якім зараз прыходзіцца не соладка не толькі матэрыяльна, але і ў маральным сэнсе, асабліва ж тым з іх, хто ваяваў у партызанах і самастойна змагаўся за незалежнасць сваёй краіны. У свой час ААН прызнала за Беларуссю права на членства ў гэтай арганізацыі за яе гераічнае (не будзем баяцца гэтага слова) супраціўленне фашызму, а цяпер яны аказваюцца часам чуць не сталінскімі бандытамі. Не забудзем, што так ці гэтак, але ўсе яны ваявалі за Беларусь, а не за Сталіна, хоць і становяцца зараз калі па прывычцы пад знаёмы чырвоны сцяг. Не забудзем, што ўсе яны, ды й іх сыны з унукамі -- выбаршчыкі, а гэта цяпер самае галоўнае.

Пасля развалу прагніўшага Саюза ў нас усталяваўся вакуум не толькі ў каўбасных крамах і магазінах. Утварыўся страшэнны вакуум і ў нашых душах. Развеялася вера не толькі ў сацыялізм і дзяржаву, але і ўвогуле ў чалавека і дабро. Народ у глыбокай апатыі, і разбудзіць яго, даўшы яму нейкую надзею і веру, -- задача не з лёгкіх. І пастаўлена яна зараз лёсам перад інтэлігенцыяй, гэтай соллю зямлі, як гаварыў яшчэ Хрыстос. Кухарка не можа кіраваць дзяржавай, як і не згатуе прыстойнага снедання інтэлігент. Але і той і другая -- людзі, той і другая -- дзеці аднаго народа, звязаныя ўзаемнай павагаю і даверам. Самым вялікім грахом марксізму якраз і быў менавіта падрыў тае веры і нядобрае проціпастаўленне адной часткі народа другой праз паняцце класавай барацьбы. У Расеі гэта вылілася ў прамое знішчэнне інтэлігенцыі, на Беларусі -- тым больш, бо яна тут яшчэ была і нацыянальная, г.зн., чужая. Тое ж, што створана было замест, і інтэлігенцыяй назваць было цяжка. Гэта сапраўды была нейкая праслойка сумніцельнага складу, хоць і выйшла яна з народа, але пакінула яго і таму фактычна прадажная. Яна павінна была служыць партыйнай вярхушцы, і прадстаўнікоў яе так і звалі цынічна служачымі. І яна вымушана была старацца. Асабліва выразна тое бачна на прыкладзе нашай рускамоўнай інтэлігенцыі, якая ўжо нават і мову сваю змяніла, каб толькі быць больш пажаданай высокаму начальству ў Маскве. У гэтым, зрэшты, і вялікая трагедыя яе, бо рабілася тое, асабліва ўпачатку, і не па злому, эгаістычнаму намеру, а ў выніку веры ў лжывы інтэрнацыяналізм і ўсё, з ім звязанае.

Але так ці гэтак, але аб'ектыўна такая пазіцыя прыводзіць да здрады свайму народу. І ў тым, што, напрыклад, адбылося ў Грузіі з гвалтоўным адхіленнем ад улады законна абранага народам прэзідэнта Гамсахурдзія і прыходам назад камуніста Шэварднадзе, у Азербайджане з уваскрэсеннем у такой жа сітуацыі зусім ужо, здавалася б, палітычнага трупа -- Аліева, у Літве і нядаўна зусім у Эстоніі, -- ува ўсім гэтым вялікая доля адказнасці ляжыць і на сумленні менавіта азначанай часткі цяперашняй інтэлігенцыі.

(Заканчэнне на 3-й стар.).



## КАНЕЦ БЯЗБОЖНАЙ ВАЙНЫ

**5 лютага 1994 года (гэта была субота) адбылася падзея, якая будзе пазначана не толькі ў аналах беларускай гісторыі. Можна сказаць, што ў гэты дзень скончылася працяглая вайна атэістычнай дзяржавы супраць мінскіх католікаў. На гмаху Кафедральнага касцёла святой Дзевы Марыі, што месціцца на плошчы Свабоды, быў узнесены крыж. Крыж сімвалічны -- зроблены з дрэва, вышынёй восем метраў, ён нагадвае вернікам пра апошнія восем месяцаў гэтай бязбожнай вайны.**

**У 1948 годзе мінская катэдра вярхоўнымі савецкімі ўладамі была аддадзена на ганьбу. З Дома малітвы зрабілі Дом фізкультуры. Тады ж быў сарваны крыж з касцёла, апаганена святыня. Апошнія восем месяцаў вернікі вымушаны былі маліцца перад будынкам былога касцёла, на вуліцы ("Голас Радзімы" пісаў пра гэтую крыжовую дарогу католікаў).**

**Нарэшце, у самым канцы мінулага года, Савет Міністраў Беларусі прыняў рашэнне аб перадачы Кафедральнага касцёла тым, каму ён па праву, і Божаму, і дзяржаўнаму, павінен належаць.**

**Ці мог гэты акт адбыцца раней! Так, мог. Ды наша дзяржава ўсё яшчэ скавана атэістычнымі путамі. Яе вышэйшыя асобы, што дзеля прыліку красуюцца ў храмах на вялікія святы побач з іерархамі царквы, не здольны зразумець патрэбы чалавечай душы.**

**НА ЗДЫМКУ: момант узнясення крыжа на мінскім Кафедральным касцёле.**

(Заканчэнне фотарэпартажу на 4-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*НА ПАРОЗЕ ЗОНЫ*

## КЕБІЧ ЗАПЭЎНІВАЕ

**Заявы праціўнікаў аб’яднання грашовых сістэм Беларусі і Расіі, быццам гэта акцыя супярэчыць інтарэсам рэспублікі, не маюць пад сабой падстаў. Аб гэтым сказаў 8 лютага на пасяджэнні прэзідыума беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч.**

**Ён пазнаёміў прысутных з пратаколам пасяджэння экспертнай камісіі па аб’яднанню грашовых сістэм, якая завяршыла работу за зачыненымі дзвярамі ў Заслаўі. Пры падпісанні пагаднення па гэтаму пытанню Беларусь, як і прадугледжвалася раней, будзе атрымліваць энерганосьбіты па аднолькавых з расійскімі спажыўцамі цэнах. Не будзе патрэбы ў мытных бар’ерах і пошлінах.**

**Кіраўнік урада пакуль што не абнародаваў курса абмену "зайчыкаў" на расійскія рублі. Але ён запэўніў, што грамадзяне Беларусі не пацерпяць пры гэтай акцыі. Прэм"ер-міністр таксама паабяцаў, што аб’яднанне грашовых сістэм не адаб"ецца на ўзроўні сацыяльнай абароненасці грамадзян рэспублікі.**

*НА ДУШУ НАСЕЛЬНІЦТВА*

## ЧЫМ БАГАТЫЯ?

**У працэсе раззбраення на першым яго этапе ў Беларусі знішчана 645 танкаў, 658 браніраваных машын, 50 самалётаў. Гэта абышлося дзяржаве ў 2,5 мільёна долараў. Цяпер нам трэба знішчыць яшчэ 1 857 танкаў, 1 224 браніраваныя машыны, 130 самалётаў. На ўсё гэта спатрэбіцца 8 мільярдаў долараў.**

**Але калі мы ліквідуем нават і гэту вызначаную колькасць узбраення, то па танках, БМП і самалётах на душу насельніцтва Беларусь будзе ўсё роўна апераджаць Расію, Украіну, Францыю, Турцыю, Польшчу, Італію.**

*СУСТРЭЧЫ*

## ШУШКЕВІЧ ПЕРАД ВЫБАРШЧЫКАМІ

**Прыкладна паўгадзіны аб падзеях, якія адбываліся нядаўна і адбываюцца цяпер, расказваў 9 лютага былы Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч на сустрэчы з гаспадарчымі кіраўнікамі прадпрыемстваў і арганізацый Фрунзенскага раёна Мінска.**

**Месца першага паяўлення на людзях пасля адклікання з пасады спікера выбрана не выпадкова: менавіта ў Фрунзенскім раёне Станіслаў Станіслававіч выбіраўся народным дэпутатам Беларусі.**

*ГОСЦЬ З-ЗА АКІЯНА*

**Вядомы амерыканскі дырыжор лаўрэат Нацыянальнай прэміі ў галіне дырыжорскага мастацтва, галоўны дырыжор сімфанічнага аркестра штата Нью-Мексіка Ніл Сталберг сустрэўся з беларускімі кампазітарамі. Музыканты абмеркавалі праблемы мастацтва, заслухалі творы беларускіх аўтараў Віктара Войціка, Уладзіміра Дамарацкага, Аляксандра Літвіноўскага.**



**НА ЗДЫМКУ: амерыканскі дырыжор Ніл СТАЛБЕРГ з жонкай (справа) у час сустрэчы ў Саюзе кампазітараў.**

*У ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ЗОНЕ*

**Вёска Грыдні Нараўлянскага раёна была ў ліку першых, з якой адсялілі людзей пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС у красавіку 86-га. І хоць радыеактыўная сітуацыя з таго часу тут мала змянілася, паступова на родную, хоць і хворую, зямлю сталі вяртацца людзі.**

**Нельга сказаць, што іх тут сустрэлі ветліва: мясцовыя ўлады адключылі электраэнергію, не выдавалі талонаў на прадукты, рабілі іншыя перашкоды. Нібыта і клапаціліся пра здароўе людзей (жыць жа тут небяспечна), а выходзіла наадварот.**

**Між тым у Грыдні вярнулася ўжо больш за 20 сем’яў. Не ад добрага жыцця вярнуліся: цураліся іх людзі на новым месцы, па недасведчанасці сваёй стараліся трымацца на адлегласці.**



**НА ЗДЫМКУ: паступова аднаўляецца закінутая гаспадарка.**

*ШТО ТАКОЕ "РАЗАБРАЦЦА"?*

## ПАЛІТЫЧНЫ ВЫШУК

**Так пракаменціраваў лідэр апазіцыі Беларускага народнага фронта ў Вярхоўным Савеце Зянон Пазьняк даручэнне новага спікера парламента Мячэслава Грыба, дадзенае ім в.а.старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі, "разабрацца" з рашэннем рэспубліканскага стачкама аб правядзенні бестэрміновай палітычнай забастоўкі. На думку Зянона Пазьняка, гэта даручэнне выклікае па меншай меры здзіўленне, бо, на думку народнага дэпутата, у кампетэнцыю заканадаўчай улады такія пытанні не ўваходзяць. Кантроль за выкананнем законаў ляжыць на пракуратуры, а не на дзяржбяспецы або Старшыні Вярхоўнага Савета.**

*"Будучыя выбары перамогі сённяшняй апазіцыі не прынясуць, у найлепшым выпадку для яе ў новым парламенце будзе роўная раскладка палітычных сіл, што і паралізуе работу парламента. Але калі б да ўлады і прыйшла апазіцыя БНФ, то новы ўрад пацярпеў бы хуткае эканамічнае фіяска, і не таму, што ў апазіцыі слабая праграма, і не таму, што ў БНФ многа "вождей", а мала работнікаў, здольных да штодзённай чарнавой працы, а таму, што эканамічныя рэформы выклічуць на Беларусі сацыяльныя ўзрушэнні і наўрад ці гэтую сітуацыю не выкарыстаюць палітычныя праціўнікі. Гэта адна з прычын, чаму ўрад В. Кебіча адцягвае рэформы ў эканоміцы".*

*С. СВІСТУНОВІЧ,*
*былы актывіст БНФ.*

*НА БУЙНІЦКІМ ПОЛІ*

## ПОМНІК ГЕРОЯМ

**У Магілёве зацверджаны праект помніка савецкім воінам -- героям бітваў з гітлераўцамі ў 1941 годзе на Буйніцкім полі недалёка ад горада. Яго распрацавалі мясцовыя архітэктары і скульптары.**

**У тыя суровыя летнія дні Магілёў стаў на шляху фашысцкіх полчышчаў, якія рваліся да Масквы. Наступалі танкавыя злучэнні групы "Цэнтр", абараняла ж горад адна савецкая 172-я стралковая дывізія генерал-маёра Міхаіла Раманава. Плячо ў плячо з воінамі змагаліся звыш дзесяці тысяч магіляўчан-апалчэнцаў. На працягу 23 дзён яны стрымлівалі націск у некалькі разоў большых сіл ворага. У адным з самых гарачых баёў 12 ліпеня на Буйніцкім полі было знішчана 39 фашысцкіх танкаў.**

**На месцы гэтай бітвы да 50-годдзя Перамогі і будзе адкрыты помнік-капліца ў стылі славянскіх традыцый. Тут жа плануецца стварыць мемарыяльны комплекс. У Алеі Славы навечна застануцца назвы часцей і імёны загінуўшых воінаў, якія змагаліся тут, вырастуць маладыя дрэўцы ў іх гонар. На Буйніцкім полі будзе адноўлена карціна бітвы: процітанкавы роў, лінія акопаў.**

*СТАРАЖЫТНАЯ ФАУНА*

## ПЕРАСЯЛЕННЕ ЗУБРОЎ

**У заказнік "Налібоцкая пушча" дастаўлены белавежскія зубры. Плануецца, што ўсяго сюды будзе завезена 15 зуброў. Догляд статка будзе весці брыгада штатных работнікаў Валожынскага лясгаса.**

**На жаль, у апошнія гады назіраецца аслабленне самай буйной сёння белавежскай папуляцыі. На думку вучоных, рассяленне гэтых рэдкіх жывёлін будзе садзейнічаць аздараўленню віду. Налібоцкая папуляцыя стане ў Беларусі чацвёртай пасля прыпяцкай, барысаўскай і белавежскай. Сёння зубрыны статак нашай рэспублікі налічвае 360 асобін.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ПАВОДЛЕ даследаванняў Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі, сёння дзве трэція грамадзян нашай дзяржавы жывуць на мяжы беднасці.

2,6 МІЛЬЯРДА рублёў дадаткова выдзяляецца з дзяржаўнага бюджэту ў фонд фундаментальных даследаванняў, а ўсяго беларуская навука атрымае сёлета на сваё развіццё больш за 6 мільярдаў рублёў.

У 1993 ГОДЗЕ да вышэйшай меры пакарання -- расстрэлу ў Беларусі было прыгаворана каля 30 чалавек, з іх паміляваны толькі 1.

ЛЕТАСЬ у Беларусь з рэспублік былога СССР вярнуліся 10 442 нашыя суайчыннікі, 2 506 -- з Латвіі, 1 607 -- з Расіі, 1 338 -- з Таджыкістана, 1 085 -- з Грузіі...

У МІНСКАЙ вобласці на 100 тысяч жыхароў прыпадае 33 хворыя на туберкулёз. Галоўную прычыну пашырэння гэтай ужо забытай хваробы спецыялісты бачаць у аварыі на Чарнобыльскай АЭС і пагаршэнні экалагічнага становішча.

АД ПАРЫЖА да Уладзівастока праз Германію, Польшчу, Беларусь праляжа хуткасная чыгунка. Да распрацоўкі свайго 650-кіламетровага ўчастка прыступілі беларускія праекціроўшчыкі і абяцаюць закончыць тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне да канца года.

У СТУДЗЕНІ гэтага года ў Мінску нарадзілася 1 315 немаўлят. Гэта менш, чым за такі ж перыяд летась. Паводле звестак Дзяржкамстата, у 1993 годзе ў Беларусі нарадзілася 117 820 дзяцей, з іх 17 341 -- у Мінску.

НАД БЕЛАРУСКІМ згуртаваннем вайскоўцаў навісла пагроза -- Міністэрства юстыцыі наважылася падаць у Вярхоўны суд на БЗВ. Патрыятычная арганізацыя абвінавачваецца ў тым, што яе статут супярэчыць Закону. Міністэрства патрабуе прыпыніць дзейнасць БЗВ.

*ПОМНІКІ ПРЫРОДЫ*

## СПІЛАВАЛІ

**З ліку помнікаў прыроды рэспубліканскага значэння выключаны дуб-двайнік, што рос непадалёку ад возера Свіцязь на Навагрудчыне.**

**Узрост дрэва вышынёй 22 метры і таўшчынёй ствала ў ніжняй яго частцы 1,67 метра перавысіў тры стагоддзі. З-за старасці дуб мог у любы час паваліцца і нарабіць бяды: недалёка знаходзіцца вядомы ў рэспубліцы пансіянат, жыхары якога любяць гуляць па ваколіцах.**

**На тым месцы, дзе рос волат, вырашана ўстанавіць памятную таблічку, а вясной пасадзіць некалькі маладых дубкоў.**

# ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І БЕЛАРУСКАЯ ІДЭЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

У нас на Беларусі такая сітуацыя ўяўляецца таксама, на жаль, магчымай, і ўсім нам, каго некалі камуністы называлі зняважліва служачымі, трэба добра падумаць над тым, каму ж мы павінны служыць цяпер і што яму сказаць, каб вярнуць давер сапраўднага нашага гаспадара -- народа, які прыйдзе ў свой час на выбары.

З развалам прагніўшага ўсесаюзнага камуністычнага будынка і з крахам афіцыйнай яго ідэалогіі азначаны вакуум утварыўся не толькі ў нашых душах, але і ў нашых галовах. Прывыкшы пастаянна дзейнічаць па ўказцы з Масквы (вядома ж, як злосна тлуміліся самыя малыя нашы спробы самастойнага мыслення), многім з нашых думаючых і сумленных інтэлігентаў аказалася цяжка зарыентавацца ў абставінах адноснай духоўнай свабоды, каб адшукаць правільны і належны курс. Пэўную ролю тут адыгрываюць яшчэ і некаторыя стэрэатыпы, як пакінутыя нам марксізмам у спадчыну, так і запазычаныя ў ментальнасці рускай інтэлігенцыі з яе адвечнай, здаецца, схільнасцю да жорсткага "чорна-белага" спосабу думаць і дзейнічаць (успомнім талстоўскае "Коль любить, так не на шутку, коль рубнуть, так уж сплеча"). Мы міжвольна кіруемся тымі стэрэатыпамі, нават жадаючы дзейнічаць у правільным кірунку.

Прыкладам можа служыць хаця б тое, як мы ставімся зараз да эканомікі і духоўнай культуры. Аб прыярытэце матэрыяльнай культуры над духоўнай пастаянна цвердзілі нам бальшавікі, і калі ў класічным марксізме прыярытэт той тлумачыўся яшчэ больш ці менш навукападобным чынам, то ў цяперашніх іх прадаўжальнікаў ён набывае амаль што цынічную форму: нам трэба, маўляў, спачатку накарміць народ, а пасля ўжо пра культурную надстройку думаць. Што з іх, цынікаў-матэрыялістаў, возьмеш. Аднак і ў нашых дэмакратаў атрымліваецца часам нешта падобнае, і асноўную сваю ўвагу яны таксама скіроўваюць пераважна на эканоміку, пра духоўнасць і філасофію часам не хочучы і слухаць. А эканоміка, між тым, як і вытворнасць працы, найцяснейшым чынам залежыць і ад фактара духоўнасці, пра што добра ведалі і пісалі ў свой час такія эканамісты-мысліцелі, як М. Вебер, Дж. Тоні, С. Булгакаў і М. Кандрацьеў (у Вебера нават сам загаловак яго славутай кнігі "Пратэстанцкая этыка і дух капіталізму" гучыць красамоўна ў гэтым сэнсе). Можна з упэўненасцю сказаць, што эканамічны наш крах у значнай меры быў не толькі прычынай, але і вынікам краху духоўнасці, стратай веры і таго, што калісьці ў нас называлася энтузіязмам. На адным толькі прынцыпе эгаістычнага інтарэсу і жадання прыбытку эканоміку таксама не адбудаваць, як гэта было паказана Максам Веберам, і той росквіт матэрыяльна-каўбаснай культуры на Захадзе, які выклікае ў нас зараз такую зайздрасць, абумоўлены быў некалі зусім не пагоняю за прыбыткам, а высокай у свой час рэлігійна-этычнай настроенасцю людзей. А цяпер і ў іх узнікаюць, дарэчы, свае праблемы, як нядаўна пра гэта гаварыў сам рымскі папа, варта глянуць толькі на іх мастацкую культуру. Без ідэі і духоўнай культуры і нам з такою задачай не справіцца, і выбаршчыкаў у такой магчымасці ніколі не пераканаць. Трэба абавязкова вярнуць нам веру ў людзей, у дабро, у справядлівасць і духоўнасць.

Той жа самы стэрэатып чорна-белага мыслення пераследжвае нам і ў наступным, у самой эканоміцы. Нацярпеўшыся ад каманда-планавых парадкаў, мы шарахаемся зараз па няшчаснай традыцыі ў процілеглую крайнасць: у абдымкі эканомікі рынчаннай, як яе разумеў яшчэ Адам Сміт, у эканоміку "дзікага" капіталізму XIX стагоддзя з яго жорсткасцю і амаралізмам, і забываем пра тое, што менавіта з пратэсту супраць гэтага і нарадзіўся марксізм з яго нядобрым дзецішчам -- камунізмам. Той капіталізм быў бязлітасны, як вядома, да духоўнай культуры. Менавіта тады было сказана Ніцшэ, што і Бог памёр. Сам Сміт параўноўваў стан сучаснай яму мастацкай культуры з "свайго роду грамадскаю прастытуцыяй", а вучоных і літаратараў лічыў увогуле самай няшчаснай пародай людзей. Ці ж мы ўжо тое не маем зараз?

Напакутаваўшыся досыць ад дэспатызму камуністычнай дзяржаўнасці, мы ўвогуле адмаўляем дзяржаве зараз права ў самым малым амаль што ўплыве на наша грамадскае жыццё, уключаючы сюды і прававую забяспечанасць, і мараль, і сацыяльную справядлівасць, і выхаванне дзяцей, і ўсё тую ж, нарэшце, духоўную культуру, пакідаючы ўсё гэта па сутнасці на волю лёсу. А пракамуністычныя нашы прадпрымальнікі разам з урадам гатовы прадаць Расіі і саму нашу дзяржаву з яе так нялёгка здабытым суверэнітэтам. Між тым у Амерыцы, да й на еўрапейскім Захадзе эканоміка мае змешаны характар, і дзяржава адыгрывае там важную ролю як у эканоміцы, так і ў духоўным жыцці людзей. Філосаф жа Гегель увогуле лічыў некалі дзяржаву, як не раз ужо прыходзілася пісаць, рэальнасцю маральнай ідэі, што вельмі дакладна і ўдала было сказана. Дзяржава, калі ўжо выкарыстаць метафару аднаго паэта, павінна мець не толькі кулакі, як тое было ў марксістаў-ленінцаў, але і быць увасабленнем маральнай ідэі -- дабра. Толькі тады яна напоўніцца духоўным аўтарытэтам, і суверэнітэт яе перастане быць усяго толькі пустой юрыдычнай формулай, як мы гэта маем, на жаль, цяпер.

Ідэя, як вядома, вельмі недаацэньвалася марксісцкім светапоглядам і асабліва той яго часткаю, якая называлася гістарычным матэрыялізмам. Гэта і пагубіла яго, між іншым, як светапогляд. Калі б ён быў арыентаваны больш на агульначалавечыя духоўныя каштоўнасці і не проціпастаўляў амаральна адну частку народа другой, робячы стаўку на бязбожны матэрыялізм і "булыжник -- оружие пролетариата", яго мэту, агульнае шчасце людзей можна было б у прынцыпе і прыняць. Нешта аналагічнае, дарэчы, здарылася і з Германіяй: калі б нямецкім сацыялістам не трапіла пад руку амаральная філасофія Ніцшэ ў спалучэнні з расізмам сацыял-дарвінісцкага толку, Германію б, напэўна, і абмінула трагедыя, якую давялося ёй перажыць у першай палове XX стагоддзя. Многае, вядома, залежыць і ад матэрыяльных умоў, але ў пэўных сацыяльных абставінах ідэя адыгрывае рашаючую ролю. Бо менавіта ідэя сплочвае народ і дае яму веру, тое, без чаго ён ужо не народ, а натоўп, а то, можа быць, і статак. Палітыкам жа ідэя дае стратэгію, за якую галасуе народ ці не галасуе.

Чым жа запоўніць той глыбокі духоўны вакуум, што пануе ў нас цяпер? Зразумела, што марксісцкая ідэалогія рашуча не падыходзіць для гэтага: надта моцна ўжо яна скампраметаваная, хоць у ёй і маюцца пэўныя здаровыя зерні. Некаторая частка нашае інтэлігенцыі, асабліва рускамоўныя яе прадстаўнікі, пачынае арыентавацца на Усход, на так званую рускую ідэю, у аснове якой ляжыць руская рэлігійная філасофія. Гэта сапраўды вялікая філасофія, нездарма ж называюць яе класічнай. Але так ці гэтак, арыентуючыся толькі на пэўную канфесію і царкву, яна носіць выразна утапічны характар, а чым тое канчаецца, мы ўсе, на жаль, ужо добра ведаем. Акрамя таго, будучы менавіта рускай нацыянальнай філасофіяй, з выразным жа шавіністычна-імперскім адценнем, яна ў прынцыпе не можа стасавацца да праблемы адраджэння беларускай нацыянальнай самасвядомасці і тым болей беларускай дзяржаўнасці, хоць і штурхаюць нас у яе абдымкі нашы мясцовыя чырвона-карычневыя "рускамоўнікі". А што тое актыўна робіцца, варта глянуць толькі на тэматыку прац філасофскіх кафедраў у нашых ВНУ. Тут яны ў шчыльным хаўрусе з урадавымі эканамістамі, прыхільнікамі так званай агульнай рублёвай зоны. Хоць і без калючага пакуль што дроту, але зоны...

Некаторыя з нашых інтэлігентаў думаюць, што ратунак да нас і прыйдзе з Захаду. Тым болей, што там, як здаецца на першы турысцкі погляд, такое мноства сартоў каўбас і да таго падобнага, хоць турыст і не можа бачыць, а колькі марак ці долараў у кішэні тамашняга пакупніка. Сучасная заходняя філасофія ўспрымаецца зараз некаторымі нашымі інтэлігентамі, як нешта сапраўды зразумелае і вельмі блізкае: той жа антытаталітарны крытыцызм і скептычнае расчараванне ўва ўсім. Тут яшчэ дадаецца і традыцыйны наш сіндром шарахання, калі нешта, што абсалютна адмаўлялася раней, поўнасцю прымаецца зараз, сіндром, абумоўлены зноў-такі нашым вымушаным правінцыялізмам. Навучыўся неяк чалавек нарэшце чытаць па-нямецку ці па-ангельску, і, зачараваны сваёй адукаванасцю, ён ужо не можа крытычна аднесціся да самога сэнсу прачытанага, нагадваючы сабою ў выніку таго дзівака з вядомага анекдота, які дзівіўся ўзроўню культьуры і адукаванасці ў Францыі, дзе нават апошні мужык умее гаварыць па-французску. І вось нам ужо прапануецца рухаць працэс адраджэння беларускай нацыянальнай культуры па шляху Хайдэгера, не зважаючы на тое, што ў Хайдэгера, як і ў многіх іншых заходніх яго калегаў і аднадумцаў, скептыцызм носіць глабальны характар і пераходзіць выразна ў змрочны бязвыхадны нігілізм. Чаго варта адна толькі хайдэгераўская фраза, што калі нас што і выратуе, то гэта толькі Бог, фраза, сказаная перакананым і ўпэўненым атэістам. Тое ж па сутнасці можна было б сказаць і пра модных у нас зараз вельмі Гадамера і Дэрыда, імёны якіх сталі часта згадвацца і на старонках некаторых беларускіх паважаных выданняў.

Пры гэтым варта было б адзначыць, што рэкамендацыі такія даюцца нам не толькі ў выніку бяскрыўдна-наіўнага правінцыялізму. Тут выразна адчуваецца і свядомая накіраванасць на тое, каб з дапамогай таго нігілістычнага скептыцызму прытуліць толькі-толькі ўзыходзячыя яшчэ парасткі самастойнае беларускае думкі, якую яшчэ раз можна было б вызначыць як беларускую ідэю. Карані той накіраванасці яскрава прасочваюцца, напрыклад, на філасофска-эканамічным аддзяленні Беларускага дзяржаўнага універсітэта і актыўна падтрымліваюцца некаторымі нашымі арыентаванымі на Захад "рускамоўнымі" інтэлігентамі, палітычны і антыбеларускі па сутнасці характар чаго не выклікае сумнення.

Справядлівасці дзеля можна было б назваць і іншыя кірункі заходняй філасофскай думкі, якія, наадварот, імкнуцца даць нейкія пазітыўныя высновы. Гэта зноў-такі рэлігійная філасофія, перш за ўсё неатамізм і персаналізм (сюды можна было б аднесці і хайдэгераўскага земляка Карла Ясперса). Але і яны вельмі моцна заангажаваныя царквою і менавіта царквою каталіцкай, якая таксама да палітыкі далёка не абыякавая. Пра гэта пераканаўча сведчаць адносіны, напрыклад, польскага касцёла да той жа беларускай ідэі, і таму тут гэтак жа трэба быць абачлівымі. І тым болей абачлівасць нам патрэбная ў адносінах да некаторых далёкаўсходніх вучэнняў, як, напрыклад, модныя зараз сярод пэўнай часткі нашай інтэлігенцыі дзэн-будызм і індыйская ёга, вучэнні, узнікшыя ў зусім іншым сацыяльна-культурным і нацыянальным асяроддзі, хоць там ёсць таксама цікавыя для нас зараз моманты.

Каб запоўніць вышэйпамянёны духоўны вакуум, нам трэба зыходзіць толькі з саміх сябе, разумна скарыстоўваючы ў той жа час дасягненні духа другіх народаў і культур. Фігуральна гаворачы, нам трэба дзейнічаць у беларускацэнтрычнай сістэме каардынат, разглядаемай як частка агульначалавечай сістэмы. Толькі так, думаецца, можна будзе нам адрадзіць беларускую самасвядомасць і беларускую духоўную культуру. Аснова для гэтага ў нас ужо ёсць: гэта мова, народная творчасць, гісторыя і тая ж самая, як гэта каму ні здалося б парадаксальным, рэлігія. Акрэсленая марксізмам як опіум для народа, яна паслядоўна і бязлітасна нішчылася бальшавікамі і камуністамі, якія не спыняліся нават перад разбурэннем храмаў і расстрэламі святароў. У сапраўднасці, аднак, рэлігія мае вельмі рэальны пазітыўны сэнс, што бачна ўжо з самой яе назвы (слова "рэлігія" паходзіць, як вядома, ад лацінскага "religare" -- злучаць, аб'ядноўваць). Яна дае чалавеку тое, што не заўсёды можа даць яму самае выкшталцонае разумаванне, -- веру. Веру ў дабро і чалавека, веру ў Бога як увасабленне самых высокіх духоўных каштоўнасцяў і ідэалаў. І ў гэтым сэнсе рэлігія можа даць апору не толькі простаму чалавеку, але і высокаадукаванаму прадстаўніку інтэлігенцыі, асабліва тэхнічнай. Больш таго, узятая як арганічная частка нацыянальнай культуры ў цэлым, яна можа служыць надзвычай эфектыўным інструментам адраджэння гэтай культуры, эфектыўным і ў палітычным плане, як тое бачым мы на прыкладзе еўрапейскіх хрысціянска-дэмакратычных партый. Такая партыя, дарэчы, узнікла і ў нас на Беларусі, вядомая як Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць.

Усё сказанае, думаецца, і складае сабою змест таго, што было названа ў самым пачатку артыкула беларускай ідэяй, ідэяй, якая і павінна, на нашу думку, легчы ў аснову беларускай духоўнасці і запоўніць той страшны вакуум, што ўтварыўся ў нашых сэрцах і галовах, у сэрцах і галовах нашае інтэлігенцыі. Толькі тады прадстаўнікі яе будуць не толькі "служачымі" таго ці іншага ўрада з яго чыноўніцкім апаратам, а стануць сапраўднай соллю зямлі, што будзе несці нашаму амаль што збыдлеламу пад камуністамі насельніцтву не толькі нейкія прыкладныя, практычныя веды, але і нацыянальную самасвядомасць, высокую духоўнасць, мараль і пачуццё годнасці самастойнага, дастойнага павагі народа. Як сказана было некалі, "сим и победиши".

**Мікола КРУКОЎСКІ,**
**прафесар, доктар філасофскіх навук, старшыня Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ

## СТВОРАНЫ ФОНД "НЯСВІЖ"

Нетрадыцыйна, з імшы ў Фарным касцёле, пачаўся ўстаноўчы сход Міжнароднага фонду "Нясвіж". Арганізатарамі яго выступілі Міністэрства культуры, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў і мясцовыя ўлады. Заснавальнікамі ж сталі 44 асобы -- вучоныя, грамадскія дзеячы, мастакі, прадпрымальнікі. Апрача беларусаў, тут грамадзяне Англіі, Італіі, Польшчы, Расіі.

Удзельнікі сходу прынялі статут фонду, дзейнасць якога будзе скіравана на адраджэнне і развіццё Нясвіжа як унікальнага цэнтра еўрапейскай культуры, выбралі Раду ў складзе 15 асоб. Узначаліў яе старшыня Нясвіжскага райсавета, дэпутат Вярхоўнага Савета РБ Уладзімір Дражын. Ганаровым прэзідэнтам сябры Рады прасілі стаць прамога нашчадка апошняга ўладальніка Нясвіжа Антонія Радзівіла (Лондан), на што атрымалі папярэднюю згоду.

Першай значнай акцыяй новага фонду стане Міжнародны сімпозіум, які пройдзе ў Нясвіжы 20-21 верасня гэтага года і будзе прысвечаны гісторыі, архітэктуры, мастацкім каштоўнасцям гэтага горада, ролі Радзівілаў у яго развіцці. Камітэт МАБ прымае заяўкі ад жадаючых выступіць з рэфератамі і ў дыскусіі.

## ДЗЕЛЯ КУЛЬТУРНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Пад старшынствам сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў доктара Анджэя Цеханавецкага (Англія) у Варшаве адбыліся пасяджэнні Беларуска-польскай камісіі экспертаў па рэстаўрацыі каштоўнасцей. З беларускага боку ў ёй прынялі ўдзел намеснік міністра культуры Дзмітрый Бубноўскі, прэзідэнт МАБ Адам Мальдзіс, сакратар беларускай нацыянальнай арганізацыі МАБ Таццяна Рошчына і іншыя. Эксперты зрабілі рэкамендацыі сваім урадам аб вяртанні ці дэпазіце асобных каштоўнасцей, абмене выставамі, сумесным вывучэнні гісторыі кнігадрукавання.

На Каралеўскім замку А.Цеханавецкі ўручыў групе польскіх вучоных і грамадскіх дзеячаў узнагароды Мальцийскага і іншых заходніх ордэнаў.

## НОВЫЯ ПАДАРУНКІ

Музейная экспазіцыя "Беларусы ў сьвеце", якая дзейнічае ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны, папоўнілася новымі экспанатамі. Доктар Раіса Жук-Грышкевіч надаслала з адпаведнай дэдыкацыяй сваю кнігу "Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча", выдадзеную ў Канадзе ў 1993 годзе, беларускія паштовыя маркі і паштоўкі, якія ўбачылі свет у Амерыцы, праграмы юбілейных урачыстасцей і выстаў. Ад пісьменніка Кастуся Акулы паступілі яго раманы на беларускай і англійскай мовах. Раман Кардонскі пераказаў нумар органа Згуртавання беларусаў у Квебеку (Канада) "Прамень". А айцец Аляксандр Надсон з Лондана прынёс у Цэнтр выдадзены ў Англіі "Беларускі царкоўны каляндар на 1994 год".

Паступаюць падарункі ад навукоўцаў з Польшчы. Вядомы гісторык Юры Туронак ахвяраваў са сваіх збораў амаль поўны камплект беларускага квартальніка "Веча", які выдаваўся ў ЗША ў сямідзесятых гадах, зборнік Алеся Змагара "Да згоды" (Кліўленд, 1962), іншыя рэдкія эміграцкія выданні. Ад люблінскага мовазнаўцы Тэатына Рот-Жаброўскага атрымана "Граматыка беларускай мовы" і "Гістарычная граматыка беларускай мовы", выдадзеныя адпаведна ў 1991 і 1992 гадах у Любліне на польскай мове.

Асаблівую цікавасць выклікае атрыманы нядаўна паэтычны зборнік Наталлі Арсенневай "Між берагамі" з яе аўтографам.

## КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны рашылі падтрымаць задуму Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" аб правядзенні 16-19 чэрвеня гэтага года міжнароднай навуковай канферэнцыі "Культура беларускага замежжа" і аднайменнага мастацкага фестывалю. Дзеля гэтага быў створаны арганізацыйны камітэт пад старшынствам прафесара Анатоля Сабалеўскага, куды ўвайшлі і прадстаўнікі МАБ.

А каб не прымушаць нашых суайчыннікаў, зарубежных вучоных двойчы адбываць далёкія падарожжы, было прынята рашэнне спалучыць з названай канферэнцыяй і навуковую -- "Беларуска-амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненні", раней запланаваную на кастрычнік. Адбудзецца яна 14-15 чэрвеня. Заяўкі на ўдзел прымаюцца.

## ЛАЎРЭАТ НОБЕЛЕЎСКАЙ ПРЭМІІ — ПРА Ф.СКАРЫНУ

З Польшчы, з выдавецтва "Знак", у кнігазбор Міжнароднага камітэта беларусістаў паступіла "Гісторыя польскай літаратуры да 1939 года" (Кракаў, 1993 год), напісаная лаўрэатам Нобелеўскай прэміі Чэславам Мілашам (ЗША). У адрозненне ад аналагічных даследаванняў тут разглядаюцца таксама іншыя літаратуры былой Рэчы Паспалітай -- беларуская, літоўская, украінская.

З вялікай павагай Ч.Мілаш адгукаецца пра Ф.Скарыну. Падкрэсліваецца, што "першая друкаваная Біблія была не на польскай, а на старабеларускай мове". Скарынаўскія выданні 1517-1519 гадоў апярэдзілі таксама Біблію М.Лютара (1522). У кнізе згадваецца, што артадаксальнае духавенства сустрэла старажытнабеларускія першадрукі варожа.

Далей гаворыцца, што асветніцкую справу Ф.Скарыны працягвалі С.Будны, Л.Сапега. У іх час магнаты з Беларусі і Літвы, "выступаючы публічна ў Варшаве, выкарыстоўвалі старабеларускую мову". Падрабязна характарызуецца дыярыюш Ф.Еўлашэўскага.

**Алеся БЕЛАВУСАВА.**

(Заканчэнне. Пачатак фотарэпартажу на 1-й стар.).

**Кафедральны касцёл асвяціў і адправіў у ім набажэнства мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, архібіскуп Казімеж Свёнтэк. Прысутнічалі прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса і, вядома ж, урадавыя асобы.**

**А драўляны крыж неўзабаве заменяць адлітым з металу. Мінская катэдра паступова вяртаецца да жыцця.**

**Ян ГІЛУЦЁВІЧ.**







**НА ЗДЫМКАХ: за дзень да вялікіх урачыстасцей; мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, архібіскуп Казімеж Свёнтэк у час асвячэння касцёла; гэтым людзям ужо не прыйдзецца маліцца пад адкрытым небам.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ЯМУ ЛЁСАМ БЫЛО НАКАНАВАНА ЛЯЖАЦЬ У ЧУЖОЙ ЗЯМЛІ

## НЕВЯДОМАЕ ПРА Тодара ЛЕБЯДУ

Адно за адным вяртаюцца ў беларускую літаратуру імёны беларускіх пісьменнікаў, выкрасленыя з нашай свядомасці і нацыянальнай літаратуры не за слабыя творы, а за "дрэнныя" паводзіны. Н.Арсеннева, М.Сяднёў, У.Дудзіцкі, А.Салавей, Т.Лебяда... Тры гады назад пра апошняга ў гутарцы з пісьменнікам Б.Сачанкам згадаў паэт і празаік на эміграцыі М.Сяднёў. У мінулым годзе ў "Літаратуры і мастацтве" быў надрукаваны пра Т.Лебяду артыкул С.Чыгрына, які выклікаў некаторыя пярэчанні ў дачкі Т.Лебяды Алы Пятроўны Козел. З ёю сустрэўся журналіст Ігар Адамовіч. Вынікам сустрэчы стаў артыкул "Мне лёсам вызначаны гэтакі прымус...", які рэдакцыя мяркуе змясціць у наступным нумары "Голасу Радзімы". З яго чытач даведаецца пра малавядомыя старонкі жыцця Тодара Лебяды, пра тое, дзе жыў ён у апошнія гады і дзе пахаваны.



**НА ЗДЫМКУ: Тодар ЛЕБЯДА ў апошнія гады жыцця.**

Мікола ШЧАГЛОЎ

# БЕЛАРУСКІ САЛАВЕЙ

## (Міхась ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ)

Ледзь адсуненая на бок пагроза хваробы фізычнае, як яе зьмяняе хвароба душэўная. Ня гледзячы на тое, што заняткі сьпевамі ідуць, як быццам, з добраю удачаю і Забэйду-Суміцкага лічаць "будучай зоркаю", -- сам ён, пасьля двух гадоў свае вакальнае навукі, зусім не здаволены. Больш таго, яму здаецца, што ягоная кар'ера сьпявака скончаная. Душэўныя перажываньні настолькі моцна апаноўваюць хворага і стомленага чалавека, што ён кідае мастацкі шлях, спыняе ня толькі вучыцца, а нават і сьпяваць. "Стаўляю крыж!" кажа сабе Забэйда-Суміцкі. А што далей? "Да веды, заўсёды да веды!" вось дэвіз гэтага чалавека і ён кідае адну дарогу і выбірае іншую. Цяпер гэта эканамічны аддзел юрыдычнага факультэту Харбінскага унівэрсытэту, які Забэйда-Суміцкі выдатна скончыў у 1928 годзе. Ён і цяпер з гонарам, хаваючы усьмешку, можа паказаць вам свой добры дыплём, які забясьпечваў яму навуковую працу пры унівэрсытэце. Вы хочаце спытацца, чаму-ж была кінутая і гэтая новая дарога? Адказ вам можа даць сам пясьняр. Хто хоць раз дакрануўся да струнаў мастацтва, той ужо назаўсёды атручаны. Мінула ня шмат часу ад мамэнту, калі Забэйда-Суміцкі наважыўся пакінуць творчы шлях, а ён ужо зноў вабіць ягоныя думкі і сэрца. Разам з навучаньнем на юрыдычным факультэце ён, адначасна, працуе над сваім голасам, опэрнымі партыямі, музычнаю асьветаю, але робіць гэта у таямніцы, пад сакрэтам, так, каб ніхто нат ня ведаў аб тым. Толькі пасьля сканчэньня унівэрсытэту тайніца выкрываецца. Праз год мы бачым у Забэйдзе-Суміцкім таго самага опэрнага сьпевака, якога пакінулі у задуме у першым разьдзеле гэтае манаграфіі.

З пачаткам сэзону у опэры Забэйда-Суміцкі займае першае месца лірычнага тэнару. За партыямі, якія пройдзеныя яшчэ з Ю. Плотніцкай, ідуць партыі Фаўста ("Фауст", Гуно), Герцага ("Рыгалета", Вэрдзі), Лыкава ("Царская нявеста", Рымскага-Корсакава), Альмавівы ("Сэвільскі цырульнік", Расіні) і інш. За адзін сэзон новы актор Харбінскае опэры выступае у 10 опэрах, паказваючы выключную працаздольнасьць. Рэцэнзэнты гэтых часоў пішуць аб Забэйдзе-Суміцкім, як аб "пачуцьцёвым, музыкальным сьпеваку, які імкнецца асэнсаваць сваю ролю у падрабязных дэталях, паглыбіцца у ейны вобраз". Крытыка прарочыць яму добрую будучыню... Толькі цяпер пачынае Забэйда-Суміцкі патроху верыць у сваё прызначаньне. А калі паверыў, ізноў усплывае перад вачыма кліч: "да веды!" Зноў мроі і лятуценьні.

Каго са сьпевакоў не цягнула у благаслаўлены край сьпеваў, чароўную, блакітную Італію, калыску опэры, хто з іх не лятуцеў аб гэтай цудоўнай варажбітцы вакальнага мастацтва і хто-б мог сумлявацца, што аб ёй ня сьніў, не лятуцеў і наш Забэйда-Суміцкі? Так, ведама, так! Ён думаў аб Італіі даўно, нават тады, калі перажываў свой жыцьцёвы крызіс і калі ставіў крыж над сваёй вакальнай кар'ерай. Толькі гэты сьціплы чалавек як ён, думаў аб ёй патайком, нікому не гаворачы аб сваёй мроі. Але затое, якою гэтая думка была упартаю і настойліваю, найлепш сьведчыць той факт, што песьняр на працягу дзесяці год па крыху адкладаў з свайго сьціплага заробку грошы, каб магчы паехаць у шчасьлівую краіну. Праца у опэры значна папраўіла матар'яльнае становішча Забэйды-Суміцкага і пакрасе мара пачала пераўтварацца у сапраўднасьць. У 1932 годзе ён узыходзіць па сходнях на акіянскі параплаў і адплывае у поўнае хваляваньняў нязнанае. Шлях ад Харбіну да Вэнэцыі (першага порту Італіі), -- гэта шлях дзівосных і фантастычных падарожжаў, якія шмат каго з нас вабілі яшчэ з маленства. Дайрэн, Шанхай, Ганконг, Сінгапур, Бамбэй, Калёмбо, Порт-Саід і, нарэшце, Вэнэцыя. Можна толькі пазайздросьціць Забэйдзе-Суміцкаму, што ён усё гэта бачыў, усім гэтым захапляўся. З гэтым ён шчыра згаджаецца у гутарцы і кажа, што свайго падарожжа ён не забудзе ніколі, як ніколі не забудзе і свае настаўніцы Ю. Плотніцкай, заняткі з якою абудзілі у ім першыя нясьмелыя думкі аб Італіі, краіне вакальнае чароўнасьці. Забэйда-Суміцкі плыў больш месяца. Усюды, дзе па дарозе параплаў затрымваўся, рабіліся экскурсіі, аглядаліся каштоўнасьці і асаблівасьці гарадоў казачнага Усходу. На параплаве часта ладзіліся канцэртныя выступленьні, у якіх браў удзел і наш падарожнік, карыстаючыся заўсёднаю удачаю у пасажыраў. Апрача прыемнасьці, якую давала Забэйдзе тое, што ён не патрабуе разьвітвацца з сваёй дзейнасьцю сьпевака, гэтыя канцэрты давалі яму і добрыя грошы, так што калі ён крануўся берагоў Італіі, дык ня толькі вярнуў грошы за праезд, але яму яшчэ засталося крыху на пражыцьцё. У Італіі Забэйда-Суміцкі зрабіў добрыя знаёмасьці, асабліва з сьпявачкаю А. Краўчанка, якая выступала у славутым опэрным Мілянскім тэатры "Ля Скаля". Краўчанку Забэйда-Суміцкі знаў яшчэ па Харбіне, пазнаёміўся ён таксама і са знаным опэрным італьянскім тэнарам Фэрнанда Царпі, вялікім прыяцелем легендарнага Карўза. Царпі у той час займаўся прафэсарскаю дзейнасьцю і ахвотна прыняў у шэрагі сваіх вучняў Забэйду-Суміцкага, працуючы з ім над пастаноўкаю голасу і над вывучэньнем і адшліфоўкаю опэрнага рэпэртуару. Зацікаўленасьць Царпі сваім вучнем была тым большая, што, паводле словаў пэдагога, голас ягонага вучня і ахвота да працы нагадвалі яму собскую маладосьць. Наколькі добра ішла праца, можна зразумець з таго, што у працягу двох тыдняў Забэйда-Суміцкі здаў свайму прафэсару опэру "Манон" Маснэ у італьянскай мове. Нават Царпі, які ці мала бачыў на сваім вяку і той зьдзівіўся: -- "Вы у мяне за два тыдні зрабілі тое, што іншыя ня зробяць і за паўгоду... Каб мы, італьянцы, мелі вашую працаздольнасць, дык заваявалі бы увесь сьвет!"... Сяброўскія дачыненьні, якія усё больш наладжваліся з Ф. Царпі, дапамаглі Забэйдзе-Суміцкаму у ягоных щнаёмствах з дырэктарамі, антрэпрэнёрамі і імпрэсарыямі італьянскіх канцэртных і опэрных прадпрыемстваў. Ён трапляе аж у Мілянскую опэру. Аднак, опэра чамусьці зьвязвае нашага сьпевака, яму хочацца большае незалежнасці і волі, хочацца гутарыць з аўдыторыяй непасрэдна і аднаму, і таму яго больш захапляе канцэртная эстрада. І тут, можа яшчэ упяршыню, Забэйда-Суміцкі уяўляе сабе, што ён прызначаны на камарнага выканаўцу.


Канец 30-х гадоў. Вільня. М. ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ з хорам Рыгора ШЫРМЫ.

Камарнае мастацтва -- гэта сапраўды найвышэйшая выканальная праца, даступная ці шмат каму, яна патрабуе яскравай індывідуальнасьці, вельмі тонкага падыходу, мазаічнага упрыгожаньня, мяккасьці, эластычнасьці і гнуткасьці. Якраз усё гэтае бало закладзенае у вакальную прыроду Забэйды-Суміцкага. Мяккі, лірычны голас, тонкая дэталёвая нюансіроўка, глыбіня і шматграннасьць настрояў -- усё гэта бяссумліўныя якасьці камэрнага выканаНькя. Вось чаму з усіх італьянскіх запросінаў Забэйда-Суміцкі аддаў перавагу канцэртнай дзейнасцьці. Ведаючы лепшыя бакі свайго таленту, сьпявак не памыліўся. Якраз камэрныя выступленьні прычыніліся да жаданае ім удачы у шмат якіх гарадох Італіі. Італьянская прэса параўноўвае яго з славутымі сьпевакамі -- тэнарамі: італьянскім Скіпай, расейскім Собінавым, яна асабліва падкрэсьлівае ягоныя перадачу, паэтыцкую душу, інструментальнасьць голасу і здольнасьць выразіць самыя разнастайныя і тонкія настроі. За чатыры гады, якія Забэйда-Суміцкі пражыў у Італіі, ён вырас з сьпевака, які пачынаў кар'еру, у сьпелага, ведамага майстру, які трывала стаіць цяпер на сваіх собскіх нагах, які на "ты" з сапраўдным мастацтвам. Цярністы і цяжкі шлях пройдзены... Усе перашкоды пераможаныя.

### РАЗЬДЗЕЛ ТРЭЦІ

**Туга па Бацькаўшчыне. — На радзіме.— Пазнанская опэра. — Варшаўскае радыё. — Канцэрты.**

*"Люблю мой край, старонку гэту,*
*Дзе я радзілася, расла,*
*Дзе першы раз пазнала шчасьце,*
*Сьлязу нядолі праліла!"*

**К.БУЙЛА.**

*"Наш край! Прайдзі увесь свет, --*
*Такога не знайсьці!"*

**Н.АРСЕНЬНЕВА.**

Радзіма! Бацькаўшчына! Маці! Дарагія сэрцу словы. Дзе-б не быў сумленны чалавек, як бы ён добра ня жыў на чужыне, яго заўсёды клічуць родныя прасторы, палеткі, лясы, дубровы, вазёры, узгоркі, сенажаці. Клічуць родныя, хай малыя і цесныя хаты, могілкі памёрлых сваякоў. Усё на Радзіме выдаецца прыгожым, нават і гаротнае, няўдалае жыцьцё выдаецца нейкім шчасьцем. Гэтак і Забэйду-Суміцкага сярод цудоўнае італьянскае прыроды, сярод удалых гастроляў не пакідае думка аб любай старонцы, аб старэнькай маці, што узгадавалі і выпесьцілі яго. З маткаю ён не бачыўся каля 16 год, а з роднымі вясковымі палеткамі, -- каля 20 год. За гэты час маці зьвярнулася з Сібіру дахаты у Шэйпякі. Нядоўга ужо заставалася ёй жыць на белым сьвеце, а памерці, ня убачыўшы сына, яна не хацела. Ліст за лістам піша яна свайму Міхасю аб спатканьні. Таго-ж жадае і сын. ён зварачваецца у польскі кансулят (тады ужо родныя мясьціны належалі да Польшчы) аб дазволе выехаць на Бацькаўшчыну. Аднак справа ня гэтакая простая, і Забэйда-Суміцкі атрымлівае катэгарычную адмову. Тады змагацца за спатканьне з сынам бярэцца сама старая маці і тое, што не удаецца знанаму у сьвеце сыну, удаецца простай, вясковай, мала каму ведамай жанчыне, якая валодае толькі аднэю сілаю--сілаю матчынага каханьня. Усхваляваны Забэйда-Суміцкі кідае чарадзейскую краіну і у 1935 годзе едзе да маці у Шэйпякі. Якую моц слова трэба мець, каб апісаць гэтае спатканьне, сустрэчу з маці чалавека, які ад'ехаў ад яе хлапчуком і зьвярнуўся да яе вядомым і слаўным, дасьпелым мужчынаю. "Пры ад'ездзе матка была вялікая, а я маленькі, кажа Забэйда-Суміцкі, а калі прыехаў -- дык знайшоў матку маленькаю, а сябе, як хадулю!".

Незабыўны быў першы канцэрт Забэйды-Суміцкага, які ён даў у мястэчку Ружаны, дзе прысутнічала матка, што упяршыню слухала свайго сына.

1 мая 1963 года, Мінск

**Дарагі Міхал Іванавіч!**

**Атрымаў Ваша пісьмо. Радуюся, што яшчэ раз пабачымося, што вы прывітаеце роднай песняй нашу Беларусь.**

**Добра зробіце, калі заменіце "Маладую Беларусь" Галкоўскага песняй Алоўнікава "Па-над лесам, па-над борам". Рэшта ўсё будзе добра.**

**Запланаваны нашы лепшыя гарады -- Віцебск, Магілёў, Гомель, Бабруйск, Пінск і іншыя. У Мінску, здаецца, 5 чэрвеня. Зал у Мінску новы, хоць і невялікі, на тысячу асоб, але прыгожы і акустычны. Вас тут чакаюць, і спатканне будзе сардэчнае.**

**Добра было б хоць запісаць з хорам пару народных песень з Вамі. А можа Вашы кампазітары маглі б зрабіць для Капэлы з Вамі? Апрацоўка можа быць папулярная, у народным духу. Мы хутка можам вывучыць.**

**А цяпер просьба. У нас у новым зале пастаўлены чэхамі цудоўны арган. Даведайцеся там, ці ёсць якая музычная літаратура для хору з арганам. Што могуць парадзіць Вашы майстры? Калі ёсць, не адмоўцеся прывезці нам. Таксама можа дастанеце клавір "Рэквіема" Керубіні.**

**Спатканне будзеце мець у кансерваторыі, у Акадэміі навук, у Саюзе кампазітараў, у Саюзе пісьменнікаў. Не хвалюйцеся, усё будзе добра. Вас тут ведаюць, Вас тут любяць...**

**Гарачае прывітанне пасылае ўся мая сям'я, М.Танк, Цішчанка і Вера Андрэеўна.**

**Да хуткага спаткання.**

**Моцна і сардэчна Вас абнімаю**

**заўсёды ваш**
**Р.ШЫРМА.**

8 кастрычніка 1963 г. Мінск

**Мой дарагі Міхал Іванавіч!**

**Наперад мушу вельмі шчыра падзякаваць Вам за пасылку...**

**Усе мы ўспамінаем вас і моцна радуемся, што злым людзям не ўдалося нарабіць перашкод. Я асабліва цешуся, што у Вас добры настрой і цёплыя ўспаміны ад побыту нашым госцем. А які настрой і водзывы пра нашу Беларусь у Здэнака!**

**Працы вельмі многа: і грамадскай, і з хорам, і пісаць трэба. Адзінаццатага гэтага месяца выязджаю на Брэстчыну з хорам на гастролі і на сустрэчы з маімі выбаршчыкамі.**

**Усе мы засылаем Вам найлепшыя пажаданні добрага здароўя і шчаслівага жыцця.**

**Мой дзень нараджэння 21 студзеня. Праз пару месяцаў стукне 72. Гады бягуць. Моцна абнімаю. Ваш**

**Р.ШЫРМА.**

Працяг. Пачатак у № № 5-6.

# "НЕКАЛЬКІ ХВІЛІН ЧУЖОГА ЖЫЦЦЯ"



Ян Скрыган.
Імя гэта ў беларускай літаратуры -- на ўсе часы.

Праўда, на самым пачатку творчай дарогі ды і ў сталыя гады ён падпісваў свае старонкі, свае кнігі такім звычным беларускаму вуху ўсмешлівым Янкам (Янка Скрыган).

А потым нечакана з"явіўся Ян... Можа, такое гучанне -- у яго асабістым уяўленні -- было болей самавітым і болей значным? У яго -- па тым часе -- ужо і добра паважным узросце.

Спачатку сёй-той здзіўлена ўзняў брыво. Іншы, ведаючы Скрыгана блізка, пасміхнуўся. А яшчэ нехта... Аднак кожная новая старонка Скрыгановай прозы, як і дагэтуль, нязменна ішла па самаму высокаму курсу. (Калі і не заўсёды аплачаная золатам, дык звонкім срэбрам ужо абавязкова!).

Дык якая была розніца: заставалася б імя ранейшым ці, накрышачку скарацішы сябе, тым часам як бы і падрасло?

І непрыкметна ўсе звыкліся.

Усё роўна Скрыган застаўся Скрыганом.

***

...Уяўляю, якім бы ён сёння стрэўся нам, Іван Аляксеевіч, калі б не паспяшаўся гэтак раптоўна, назаўсёды зачыніцца за сваімі навек знямелымі дзвярыма... І сёння бачыцца мне, як ён кіруецца насустрач. Імклівы крок. Плечы, дзякаваць Богу, пад ношкай гадоў не прыгнуліся. У хітраватым прыжмуры вачэй -- добразычлівая (скрыганоўская) усмешка. Зграбны кіёк у руках. (А як пад настрой, дык і ці не сапраўдны посах...). Днём не для помачы. Ён хутчэй для своеасаблівага элеганту. А, можа, гэта нават просты водгалас тых незабыўных "бурапеністых" часоў "Літаратурна-мастацкай камуны", калі, "памятаючы прыклад рускага футурызму, што трэба нечым выпучыцца, хадзілі бадай што ўсе з кіямі і ў капелюшах, што на той час было навіною. Трымалі сябе ваяўніча і задзёрыста на літаратурных вечарах і дыспутах, траха не загрудкі хапаліся ў спрэчках".

Так усмешліва сам Ян Скрыган успамінаў, як церабіла некалі сабе сцежку на літаратурны Парнас яго пакаленне. Лепш гэта ці горш, чым як цяпер цярэбіць яе сённяшняе пакаленне паэтаў? (Як і кожны прававерны пісьменнік, Скрыган таксама пачынаў з вершаў).

Для яго гэта было лепш таму, што гэта была маладосць яго ўласная і яго пакалення маладосць. Сённяшнія, дажыўшы да яго веку, некалі лепшай будуць лічыць сцежку таксама сваёй паэтычнай маладосці.

І ўсё правільна!

***

-- Дзяньдобры! Дзяньдобры! Як жывецца? Як гадуецца?

Скрыганоўская скорагаворка страчалася таксама, як свята. Бо калі чуў яго мову, то нібыта піў з празрыстае крышталёвае крыніцы. Ён захаваў у чысціні хараство слова з тых яшчэ часоў, калі вясковым хлопцам, у кажушку, у сякіх-такіх чаравіках, упершыню пераступіў парог "Вясковага будаўніка". Калі, дастаўшы з-за пазухі невялічкую зрэбную торбачку, высыпаў з яе на рэдактараў стол цэлыя прыгаршчы залатога і срэбнага звону! Звон той -- слуцкі, адмысловы -- спрадвеку назапашвалі ў сваіх скарбонках яго яшчэ даўнія-старадаўнія бабулі і прабабулі. У спадчыну перадавалася багацце не кожнаму з унукаў і праўнукаў...

"Бацька мой, як і кожны грэшны чалавек, вельмі ж хацеў забагацець. Ён залез у доўг у зямельны банк і купіў сабе недзе пад Слуцкам, у Хваявіцы, кавалак зямлі. Няўдобіцы -- пясок, балоты ды імшарнік... Ён пераехаў туды, будаваўся, карчаваўся, а сядзібу ў Труханавічах пакінуў старэйшай сястры Ульяне. Школы там не было, і я амаль увесь час аставаўся ў Ульяны: узімку вучыўся, а ўлетку памагаў гадаваць дзяцей. Часам ездзіў і да бацькі. Божа мой: гушчэча, камары, нуда, кругом з балот бясконца крумкаюць жабы. А ўзімку чортведама як вусцішна выюць ваўкі..."

Звычайна ўлетку, пакуль ён быў меншы, на ім ляжалі абавязкі пастуха. Але з гадамі на плечы клалася і другая работа: араць, касіць і сеяць... Ён умеў пілаваць дошкі, бандарыць, стalярыць, гнуць абады, рабіць сані і калёсы, саломаю ці гонтаю крыць стрэхі. Работа не палохала яго. Палохала беспрасветнасць яе... "Дзеля чаго тады жыць, калі быць толькі рабом зямлі?"

Так ад нязгоды бунтавала сэрца. А ў душы ішла свая патаемная работа, душа нямела ад незразумелага прадчування... Так заўсёды бывае, калі ў чалавеку нараджаецца паэт.

...Вершы былі адпраўлены ў газету "Вясковы будаўнік" па пошце. Па пошце ж неўзабаве прыйшло і запрашэнне наведаць рэдакцыю. Які гэта быў дзень! Божа, які незабыўны дзень, калі яму прапанавалі застацца працаваць у газеце!

Ён апрацоўваў заметкі селькораў, збіраў падпіску, фальцаваў газету, хадзіў на вёрстку ў друкарню. А калі друкаваліся яго ўласныя вершы -- ён адразу ж стаў актыўным членам Слуцкай філіі "Маладняка", -- ён падпісваў іх пагрозлівым псеўданімам "Пірат". Ён быў тады пад моцным уплывам паэзіі Байрана. Байранаў "Карсар" вельмі імпанаваў яго тагачаснаму настрою і паэтычнаму густу.

Няцяжка ўявіць сабе, якое свята было ў Слуцкай філіі, калі вершы яе ўдзельнікаў трапілі ў кніжку "Маладняка"!.. Калі яе наведалі такія ўжо вядомыя пісьменнікі, як Кузьма Чорны і Язэп Пушча. (Гэтая падзея нарадзіла "Першую стрэчу" -- апавяданне Янкі Скрыгана). А потым быў у Мінску Першы з"езд "Маладняка", Слуцкая філія таксама ўдзельнічала ў гэтым з"ездзе. Там жа Янка Скрыган упершыню ўбачыў палымянага Міхася Чарота, убачыў Міхася Зарэцкага, Алеся Дудара, Андрэя Александровіча, Кандрата Крапіву, Міхася Лынькова. А таксама гасцей, запрошаных з Украіны -- Сасюру, Ягансена... Асабліва ж запалі яму ў вока маладыя і такія прыгожыя паэткі: Зіна Бандарына, Яўгенія Пфлямбаум, Наталля Вішнеўская... Дзявочае хараство, жаночая маладосць -- яны на ўсё жыццё заставаліся натхненнем пісьменніка. А інакшым хіба мог, хіба можа быць мастак? ("Жанчына! Ва ўсе часы і ўсімі народамі колькі напісана хвалы яе хараству! Я таксама яго палоннік. Але, божачка, як цяжка падумаць, што яно патрабуе вельмі дарагой абсады").

...Сёння можна толькі здзіўляцца і зайздросціць таму паэтычнаму катлу, у якім кіпеў тагачасны -- дваццатых гадоў -- Слуцк. Апанас Атава, Язэп Сукала, Іда Чырвань, Паўлюк Шукайла... Самі імёны -- яны нібыта таксама ўсходзілі на ўрадлівай слуцкай глебе.

І ўвогуле пакаленню Скрыгана -- тагачаснаму, -- яго аднагодкам сумаваць не даводзілася. Не даводзілася і яму самому. Кіпела і бурліла філія. Пісаліся і друкаваліся вершы. Хапала работы ў рэдакцыі. Але работа ніколі не была для яго цяжкая. Яна, як і жыццё, цешыла. А жыццё ўжо надзейна станавілася на ногі. Ён ужо самастойна справіў боты, а да іх і галіфэ. А каб трымаць моду, дык адразу ж на галіфэ і леі нашыў...

Пасля Слуцка былі Расоны. Вялізнае сяло -- хоць і раён. Там ён загадваў Нардомам, што мясціўся ў колішняй дамавой царкве ў маёнтку былога пана Глазкі. І там жа быў сакратаром чынуначнай камсамольскай арганізацыі. "Гэты час вельмі люблю ўспамінаць, -- напіша праз многа год Скрыган. -- Нам хацелася вельмі многа зрабіць..." І сапраўды, чаго толькі тады не патрабавалася! І сходы па сёлах праводзіць, і наладжваць культурную работу, і даклады чытаць, асабліва пра міжнароднае становішча... І ўсё пехатою, пехатою -- толькі хіба ў дарозе дзе падкінешся да якога-небудзь дзядзькі на воз. Але ж і ногі былі -- маладыя.

З Расонаў заўзяты начальнік Нардома паслаў у "Маладняк" аж цэлы сшытак вершаў. Яны ўзыходзілі і каласавалі ў яго душы, калі ён з усім юначым запалам імкнуўся засяваць землі даверанай яму Расоншчыны разумным, добрым і вечным...

Сшытак з "Маладняка" вярнулі... Затое апавяданне "Таіса" ў газеце "Чырвоная Полаччына" надрукавалі адразу ж. І адразу ж ён стаў вядомы на цэлы раён! Апавяданне стала прадметам размовы настаўніцкай канферэнцыі, якая праходзіла ў Полацку. І пасля гэтага, як і некалі ў Слуцку за першы надрукаваны верш, таксама прапанавалі яму пераехаць на работу ў рэдакцыю. Сакратаром "Чырвонай Полаччыны" быў на той час Пятрусь Броўка. "Наогул мне шанцавала на добрых людзей..." -- пацешыцца потым Ян Скрыган.

Зноў быў горад. Вакол газеты зноў гуртаваўся літаратурны актыў, і таму пісалася, і працавалася, і жылося з уздымам. У сааўтарстве з мінскімі пісьменнікамі былі падрыхтаваны і выйшлі з друку альманахі "Наддзвінне" і "Росквіт". У гэты недзе час -- і друкаванне апавяданняў на старонках альманахаў, і цёплыя ўважлівыя словы сяброў -- і абумовіўся канчатковы пераход Янкі Скрыгана-паэта ў больш прывабны яму стан празаікаў.

Разумелася, аднак, добра і другое: поспехі раённага маштабу, вядома, цудоўна... Але вучыцца далей неабходна таксама!

І паступова адзін за адным, адзін за адным пачалі яны кіравацца па навуку ў Мінск. У Мінск!

У Мінску адразу ж апынуліся ў гушчыні сапраўднай літаратурнай атмасферы. Не міналі ні сходаў, ні дыспутаў, ні літаратурных вечароў. Не міналі выпадку і самі ўдзельнічаць і выступаць. На самым пачатку заснавалі, праўда, сваю -- з палачан-землякоў -- "Літаратурна-мастацкую камуну". Больш ад зухаватасці і нязгоды, больш насуперак маладняkоўцам ("Калі вы не прызнаеце нас у сваім "Маладняку", дык мы і самі!.."), чым ад усведамлення патрэбы часу і творчай неабходнасці... Гэта тады яны хадзілі з кіямі і "ламалі дровы" з футурыстычных вершаў, якія ім, вясковым хлопцам, мала каму даваліся ў рукі. Гэта тады яны, падкінуўшы кажух пад бок на падлозе ў каморцы якой-небудзь "пані Стрыжэўскай", да ранку маглі спрачацца і чытаць адзін аднаму вершы.

Зноў былі бясконцыя паездкі, камандзіроўкі на новабудоўлі рэспублікі, на фабрыкі і заводы, у маладыя калгасы. А вакол было такое асяроддзе! Кузьма Чорны, Рыгор Мурашка, Платон Галавач, Васіль Каваль... Тут жа наладжвалася і новае таварыства з Барысам Мікулічам, Сымонам Баранавых, Юліем Таўбіным. З Заірам Азгурам -- быў час -- яны былі, "як спарышы". З Петрусём Броўкам старая дружба вялася яшчэ з Полацка.

...На месцы тагачаснага густога бору самых разнастайных і рознавялікіх талентаў і асоб даўно ўжо шырыцца вялізная аголеная палянка... Вакол яе абступіў іншы ўжо -- у новай сіле -- лес. А на ўзлессі задзірыста імкне да сонца таксама ўжо зусім непадобны падлесак.

Ян Скрыган -- на чале той палянкі -- мне асабіста ўяўляўся заўсёды трывалым гаманкім сонцалюбівым ясенем...

Як сам ён успамінаў у "Сваёй аповесці", яму "на васемнаццаць з лішкам гадоў давялося перамяніць прафесію... Я працаваў землякопам, цесляром, конюхам, вадавозам, будаўніком, сплаўшчыкам, бухгалтарам, планавіком, рэвізорам... Пабываў у Сібіры, Казахстане, Эстоніі. А потым зноў у Сібіры...".

"Давялося... Пабываў..." Хто не ведае цяпер катаржнага зместу гэтага асцярожнага Скрыганавага слова? Сам ён у гутарках ніколі не "расшыфроўваў" яго (хіба што толькі з сябрамі-"пабрацімамі" па "сацгулагу"). Не дазваляў ні сабе самому скардзіцца на ўласны лёс, ні слухаць спачуванні з чужых вуснаў. І гэта рыса яго характару неяк яшчэ больш узвышала яго, як асобу.

...Яшчэ ў 1929 годзе выйшла самая першая кніга "Затока ў бурах", благаслаўлёная Цішкам Гартным. Праз два гады напісалася яшчэ адна кніга апавяданняў "Недапісаны профіль".

...Гартаю і перачытваю старонкі кніг Яна Скрыгана, якія выйшлі за апошнія гады яго жыцця.

Аповесць з адступленнямі "Кругі". Аповесць "Усюды твае сляды", "Некалькі хвілін чужога жыцця". Апавяданні. Падарожжы. Даткненні. Пярэгалас. Майстэрня. Чары слова...

Як глыбока пайшло ў зямлю карэнне! Як шырака і прасторна размахнулася голлем само паэтычнае дрэва! Які свежы і духмяны пошум лістоты! І гэта -- Ян Скрыган.

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

*АДКУЛЬ ШТО ПАЙШЛО?*

# МАГІЛЁЎСКАЕ ПІВА

Без гэтага цудоўнага напою немагчыма нават уявіць гісторыю познесярэднявечнага Магілёва. Ні адна больш-менш значная падзея не абыходзілася без піва. Ды і ў буднія дні магілёўцы, відаць, рэгулярна ўжывалі піва, якое самі і гатавалі. Гэтая традыцыя захавалася і зараз, толькі робяць напітак ужо на заводзе, і саступае ён, напэўна, толькі лідскаму.

Але звернемся да гісторыі. Як вядома, для гатавання піва неабходна замачыць солад. У Магілёве гэтай справай з 1578 года займаліся не асобныя людзі, а цэлы цэх. У ім працавала 17 саладоўнікаў.

Напэўна, дзейнасць цэха не магла цалкам задаволіць патрэбы горада, таму, відаць, і з'явілася ў 1604 годзе грамата караля Жыгімонта III, якая дазваляла ўсялякаму магілёўцу гатаваць у сябе піва і іншае пітво, але толькі для ўласнага ўжывання і ні ў якім разе для продажу.

Як сведчыць інвентар Магілёўскага замка за гэты ж год, кіраўніцтва магілёўскага староства, якое месцілася тут, таксама не магло абысціся без піва. Сярод замкавай маёмасці, акрамя пякарні і карчмы, згадваецца і мураваны бровар -- так раней называлася піваварня.

Бровары былі і ў гараджан. Так, у 1638 годзе магілёўскі бурмістр Цімахвей Гангановіч ахвяраваў Багаяўленскаму брацкаму манастыру сваю маёмасць: два зямельныя пляцы, студню, а таксама бровар з лісцем, катлом піўным і ўсім начыннем, для варэння піва патрэбным.

Шмат піва было зварана і выпіта пры закладцы магілёўскай ратушы. Не менш давялося прыгатаваць піва падчас Паўночнай вайны, прычым, як адзначана ў запісках ігумена Арэста, піва розных сартоў як для рускіх войскаў і іх камандзіраў, так і для шведскіх. Напрыклад, 10 снежня 1708 года Пётр I быў у Копысі і, як меркаваў магістрат, мог завітаць і ў Магілёў. Таму было прыгатавана шмат віна, мёду, піва і прадуктаў розных. Але на гэты раз цар не даехаў да Магілёва, і панам радзе (члены магістрата -- бургамістры, лаўнікі) прыйшлося ўсё прыгатаванае выпіць і з'есці, каб не сапсавалася і дарма не прапала. Напэўна, яны засталіся не вельмі пакрыўджанымі на расейскага самадзержца.

Вядомы і такі цікавы факт. Калі пасля бітвы 3 ліпеня 1708 года галоўнае шведскае войска ўвайшло ў горад, то запатрабавала з кожнай часткі горада (а іх было 15) па 12 500 фунтаў хлеба і 960 гарнцаў піва. У якой сотні не маглі выдаць такой колькасці прадуктаў, то павінны былі заплаціць грашыма. Гарнец -- гэта керамічнае начынне для вымярэння сыпкіх і вадкіх рэчываў у сістэме мер Вялікага Княства Літоўскага. Вядомы малы, ці просты гарнец, які змяшчаў 2,8 літра, і вялікі, ці цэхавы, -- 5,6 літра. Нам невядома, якімі запатрабавалі шведы, але калі нават і малымі, то гэта амаль 2 500 літраў з адной сотні! Агульнавядома, што з галадухі нельга злоўжываць ежай і пітвом, ды шведы, відаць, пра ўсё забыліся ў такім хлебным горадзе, як Магілёў. У выніку, як піша летапісец, шмат іх у той час ад пераядання памерла.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

## ДА 90-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Ларысы АЛЕКСАНДРОЎСКАЙ





**Ларыса АЛЕКСАНДРОЎСКАЯ -- легенда беларускага опернага і яго самы дзейсны стваральнік.**

**У сценах тэатра прайшло амаль трыццаць гадоў яе жыцця, дзе яна была салісткай, а потым і галоўным рэжысёрам. У першым спектаклі беларускага опернага Ларыса Александроўская выканала галоўную партыю ў оперы Бізэ "Кармэн". І потым доўгія гады знаўцы і проста аматары оперы хадзілі ў тэатр "на Александроўскую", захапляючыся чароўным голасам артысткі, любуючыся незвычайна прывабнай знешнасцю любімай спявачкі.**

**Л.Александроўская была нацыянальнай артысткай, любіла, ведала і прапагандавала нацыянальную музыку. Яна выконвала вядучыя партыі ў операх беларускіх кампазітараў Я.Цікоцкага, Д.Лукаса, А.Туранкова, з асалодаю спявала беларускія народныя песні, і ніхто лепш за яе не выконваў "Перапёлачку", "Чаму ж мне ня пець", "Ой, не кукуй, зязюленька".**

**І ў той жа час Ларыса Александроўская была выканаўцай галоўных партый у класічных операх "Яўгеній Анегін" і "Пікавая дама" П.Чайкоўскага, "Князь Ігар" А.Барадзіна, "Царская нявеста" М.Рымскага-Корсакава і інш.**

**Ларыса Александроўская была клапатлівым і душэўным выхавацелем тэатральнай моладзі. Яна пакінула незвычайны след у сэрцы і лёсе такіх тэатральных знакамітасцей, як Т.Ніжнікава, Л.Галушкіна і інш., якія захавалі пра яе найлепшыя ўспаміны.**

**НА ЗДЫМКАХ: ; Л.АЛЕКСАНДРОЎСКАЯ. Фота 1974 года; Л.АЛЕКСАНДРОЎСКАЯ і У.ЛАПІН у сцэне з оперы Я.Цікоцкага "Міхась Падгорны". Фота 1939 года; Ларыса АЛЕКСАНДРОЎСКАЯ і Рыгор ШЫРМА. Фота 1974 года**

**Здымкі з фотатэкі БЕлінфарма.**



## У БЕЛАРУСАЎ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# СА ЗВАНІЦЫ ЮРКІ ГЕНІЮША

У лістападзе 1985 года з Беластока прыйшла сумная вестка: памёр Юрка Геніюш, таленавіты беларускі празаік, драматург, паэт і публіцыст, сын слыннай паэткі нашага краю Ларысы Геніюш.

Нарадзіўся ён у 1935 годзе ў Зэльве. Па трагічных для сям'і Геніюшаў абставінах большую частку свайго жыцця пражыў без бацькоў у Беластоку. Тут пабудаваў свой дом, меў добрую сям'ю.

Пісьменніцкі лёс Юркі Геніюша непарыўна звязаны са станаўленнем і развіццём беларускага тыднёвіка "Ніва" і Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, у дзейнасці якога ён прымаў актыўны ўдзел. Дэбютаваў Ю.Геніюш на старонках "Нівы" ў кастрычніку 1963 года -- гэта было апавяданне "Прыкметы".

Пісаў Юрка Геніюш таксама і сцэнічныя творы. Прыкладам можа служыць "Зборнік сцэнічных твораў", які ён выдаў у 1976 годзе ў Беластоку сумесна з Сакратам Яновічам.

Пахаваны пісьменнік Юрка Геніюш у Беластоку, на праваслаўных могілках, у Петрашоўскім квартале горада.

У 1992 годзе беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа", якім кіруе Ян Чыквін, выдала ў Беластоку кніжку "Маці і сын". Пад адну вокладку былі сабраны раней невядомыя вершы Ларысы Геніюш і паэтычныя абразкі яе сына Юркі Геніюша, якія былі напісаны на фальклорна-міфалагічнай аснове.

А нядаўна праграмная рада тыднёвіка "Ніва" ў Беластоку з удзелам Міністэрства культуры і мастацтва Рэспублікі Польшча, якое было фундатарам, выдала асобную празаічную кнігу Юркі Геніюша "З маёй званіцы".

У кнігу ўвайшлі фельетоны, гумарыстычныя абразкі і апавяданні. Празаік трапна, лаканічна, у звычайнай вобразнай форме расказвае пра смешныя моманты з жыцця сваіх землякоў. Аб чым толькі ён ні гутарыць! Чаго тут толькі чытач ні пачуе! Чаму ў каровы хвост уніз расце? Чаму пра цябе адну мару, найхарашэйшая мая? Як чэрці свіней у балота зацягнулі? Як я сына ў сярэднюю школу кіраваў? На гэтыя і дзесяткі іншых смяхотлівых пытанняў дае жыццёвыя адказы Юрка Геніюш. Гэтыя адказы простыя і зразумелыя, як анекдоты. У іх шмат арыгінальных прыказак і прымавак, багата яркіх і запамінальных фразеалагізмаў, народных выслоўяў і рэплік: "шлюбнай жонцы ніколі ні ў чым не адмаўляй", "сабака брэша, дзеці пішчаць, жонка сварыцца, матор гудзе", "вочы ў зямлю ўваб'е", "сыцее і сыцее -- пад нож даспявае", "пад лыжачкай смокча" і многія іншыя.

Творы Юркі Геніюша мне чымсьці нагадваюць прозу Андрэя Мрыя. Яны, кажучы словамі Максіма Гарэцкага, "агульнадаступныя, лёгкія, у духу свайго дня з рознымі слоўнымі эфектамі".

Да кнігі "З маёй званіцы" невялікае слова згадкі напісаў Сакрат Яновіч. Ён, дарэчы, адзначыў: "Успамінаючы драматычную смерць Юркі (20 лістапада 1985 года), прыходзіць на думку і такая канстатацыя: яго загубіў нядобры час! Будучы па сваёй натуры паэтам, ён балюча перажываў бясслаўную эпоху, прытым нажыўшы сабе ворагаў сярод грубаскурных здаволенцаў і наменклатурных паноў. Як кожны пісьменнік, дабіваўся друкавання, што было такому заняткам на тую пару вычарпальным. Выхаваны ў стараеўрапейскай Празе і маючы бацькоў патомных інтэлігентаў, не паддаваўся маніпуляцыі. Не дазваляў калечыць свае тэксты. Не пагаджаўся запісваць у іх тое, чаго не напісаў. І ён заплаціў гэтую чортаву даніну -- не толькі ў выглядзе неапублікаванага, але таксама хваробамі, стратай нерваў, урэшце, заўчаснай смерцяй у свае пяцьдзесят".

Няхай кніга "З маёй званіцы" Юркі Геніюша будзе данінай яго светлай памяці.

# САКРАТ — ПРА БЕЛАРУСЬ

Сакрат Яновіч -- вядомы беларускі празаік, жыве і працуе ў Польшчы, на Беласточчыне. Нарадзіўся ён у 1936 годзе. Скончыў польскую філалогію Варшаўскага універсітэта. Аўтар амаль дваццаці кніжак.

У Беларусі выйшла з друку дзве кніжкі Сакрата Яновіча -- "Сярэбраны яздок" (1978 г.) і "Самасей" (1992 г.).

Зусім нядаўна з Беластока зноў прыйшла прыемная вестка: з друку выйшла новая кніга Сакрата Яновіча "Тэрра інкогніта: Беларусь". Кніга надрукавана на польскай мове. Менавіта да польскага чытача і звяртаецца аўтар, каб праўдзіва расказаць пра гісторыю Беларусі і яе народ. Змешчаны ў кнізе і нарыс на беларускай мове "З былога".

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# ЗА РАДОК — ГАДОК

8 лютага ў Доме літаратара адбыўся вечар памяці выдатнага паэта Валянціна Таўлая. Вечар пакінуў светлае ўражанне, адчуванне цеплыні і еднасці, якія так рэдка кранаюць спакутаваныя няпэўным жыццём душы. Думаю, што стварэнню такой атмасферы спрыяла і асоба пісьменніка, пра якога гаварылі аднадумцы, сябры, паплечнікі, якія прыйшлі ўшанаваць памяць светлага і мужнага чалавека, і пастаць вядучага вечарыны Янкі Брыля, які ўступным словам вызначыў яе спакойную і шчырую танальнасць. Ён адзначыў высокую чалавечнасць Валянціна Таўлая як адну з галоўных і самых каштоўных рысаў. У 11 гадоў хлопчык быў выключаны са школы за тое, што лічыў сябе беларусам і не адрокся ад свайго народа. У 15 В.Таўлай ступіў на шлях рэвалюцыйнай барацьбы і змагаўся як прафесіянал-падпольшчык супраць польскіх і нямецкіх акупантаў. Дзевяць гадоў з трыццаці трох, адпушчаных яму лёсам, Валянцін Таўлай правёў за кратамі. Бачыў многа гора, нястачы, пакут, але заставаўся спакойным і добразычлівым, быў таленавітым паэтам і пакінуў свайму народу выдатную літаратурную спадчыну. Перад смерцю ад цяжкай хваробы ў 1947 годзе В.Таўлай паспеў пабачыць дачку Галіну (яна прысутнічала на вечары ў Доме літаратара), але не ўбачыў сваёй кніжкі, якую ён назваў "Шляхі і краты". Яна выйшла пасля яго смерці пад безаблічнай назвай "Выбранае". Вершы Валянціна Таўлая адыгралі важную ролю ў барацьбе з фашыстамі. Яны друкаваліся як лістоўкі, да іх пісалася музыка, і яны станавіліся песняй.

Пра свае сустрэчы з В.Таўлаем расказалі на вечары Максім Танк, Анатоль Вялюгін, які працаваў з В.Таўлаем напрыканцы 30-х гадоў у газеце "Звязда", доктар фізіка-матэматычных навук Л.Барысаглебскі, таварыш па падпольнай і партызанскай барацьбе ў гады вайны, А.Траяноўскі, былы рэдактар навагрудскай раённай газеты, дзе В.Таўлай пасля вайны працаваў адказным сакратаром.

Анатоль Іверс пазнаёміўся з В.Таўлаем яшчэ ў 1927 годзе, разам вучыліся ў Віленскай беларускай гімназіі.

-- Гэта быў вельмі паважны хлопец, -- сказаў пра сябра маладосці А.Іверс. -- Меў вельмі высокую свядомасць, а яна клікала на барацьбу. Нас вучыў Ігнат Дварчанін. Ён падштурхнуў мяне да пісання вершаў, а Таўлай ужо пісаў і друкаваўся, хоць меў усяго 11--12 гадоў.

На вечарыну прыехалі бібліятэкары і настаўнікі з Баранавіч, якія расказалі, як шануецца і захоўваецца ў іх горадзе памяць пра выдатнага земляка. Намаганнямі Алены Яхант, настаўніцы адной з баранавіцкіх школ, створаны літаратурна-краязнаўчы музей імя В.Таўлая, у якім найбольш месца займаюць экспанаты пра пісьменніка, жыццё якога было звязана з Заходняй Беларуссю.

У гэты вечар гучалі вершы Валянціна Таўлая ў дасканалым выкананні Марыі Захарэвіч і Віктара Манаева, дзяўчынкі з фальклорнага калектыву "Калыханка" выконвалі беларускія песні. Перад партрэтам Валянціна Таўлая загадкава мігцелі агеньчыкі свечак.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**



## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ







Пышныя аблокі, мяккія водбліскі сонечных промняў на якіх пераліваюцца ад ружовага колеру да насычанага чырвонага. Аблокі зачароўваюць і палохаюць сваёй сілай, прыгажосцю. Калі доўга ўглядаешся ў неба, здаецца, што ў ім ёсць нешта трагічнае, што яно прадвесце катастрофы. А можа, не неба гэта зусім, а клубы дыму ад атамнага выбуху, які падманвае нас сваёй прагажосцю, заварожвае і асляпляе.

А пад небам -- дарогі. На адной з іх --патрэсканая зямля. Не бачна, куды яна вядзе. Маленькая адзінокая хатка ўздоўж дарогі здаецца пустой і няшчаснай. Адна з дарог прывяла да храма, які захапляе багаццем сваіх упрыгажэнняў. А ля храма -- нікога. Ён зачынены і забіты дошкамі крыж-накрыж. Ёсць тут яшчэ адзін храм. Гатычнае збудаванне стаіць на вадзе.

Усё гэта -- трыпціх "Дарогі, па якіх ніхто не ходзіць". Аўтар яго Барыс Казакоў -- жывапісец і мастак тэатра. Ён працаваў у тэатрах Гомеля, Магілёва, Мінска, выкладаў у Беларускай акадэміі мастацтваў.

Нядаўняя выстава Барыса Казакова ў Палацы мастацтва -- гэта хваля цеплыні сярод холаду і роспачы чалавечай. Саграюць ягоныя фарбы, ягоныя сюжэты. Мастак жыве ва ўтульным свеце сярод сялянскіх хат, краявідаў. Ён піша пейзажы, бытавыя карціны. Прымушае нас дзівіцца спакою прыроды, натуральнасці ўсяго, што жыве ў ёй. "Жнівень. Вяртанне дадому" -- гоняць кароў з поля. Ажываюць гукі вясковага надвячорка. Дзесьці вядро бразнула: гаспадыня рыхтуецца да вячэрняй дойкі, дзесьці гамоняць дзеці. Мыкае карова, падыходзячы да хаты, дзе гаспадар сустракае яе з лустай хлеба, каб памятала, што яе тут чакаюць. Праз дрэвы падаюць апошнія промні сонейка. І яны, як і ўся атмасфера карціны, саграваюць душу.

Барыс Казакоў не кідаецца ў таннае філасофстваванне ў сваіх карцінах. Ён піша тое, што бачыць на вёсцы. Прастата ягоных сюжэтаў пакарае. Карціны Б.Казакова звернутыя да спрадвечных каштоўнасцяў, да зямлі. На іх -- яе подых. Калі ж глядзіш на карціну мастака "Восень-93", на якой чорнае неба, а на зямлі сярод лістоў -- старыя савецкія грошы, хочацца адысці ад яе і паглядзець зноў пейзажы мастака ці "Тайную вячэру", дзе няма людзей. На зямлі -- лісце і паваленае крэсла. Астатнія 12 стаяць каля стала. Падзівіцца майстэрству мастака ствараць настрой ці пах трывогі і здрады, як на "Тайнай вячэры", ці атмасферу спакою, як на ягоных пейзажах.

**Алена СПАСЮК.**

НА ЗЫМКАХ: трыпціх Б. КАЗАКОВА "Дарогі, па якіх ніхто не ходзіць".

## МАГІЛЁЎСКАЕ ПІВА

(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).

Звычайна ў Магілёве, як і ва ўсёй Рэчы Паспалітай, піва ў XYII–XYIII стагоддзях каштавала па 4–6 грошаў за гарнец, і толькі фірменнае, як лавіцкае ці варшаўскае, — ад 8 грошаў да 1 злотага 16 грошаў. Падчас Паўночнай вайны ў Магілёве піва (як і іншыя прадукты) узнялося ў цане і каштавала 1 злоты за гарнец.

З таго часу, як Магілёў трапіў у склад Расійскай імперыі (1772 год), рамесніцкі выраб піва паступова пераходзіць у мануфактурныі заводскі. У 1783—1784 гадах у Магілёве дзейнічала 7 піваварных заводаў.

У другой палове XIX стагоддзя ў Магілёве дзейнічала некалькі піваварных заводаў. Адзін з іх належаў вядомаму на Беларусі купцу, баварскаму падданаму Францу Лекерту. У 1879 годзе завод размяшчаўся на былым Маскоўскім (раней Лупалаўскім) прадмесці на вуліцы Шасейнай у двухпавярховым мураваным будынку са скляпеннямі і млынамі для перамельвання соладу. У 1880 годзе завод быў тэлефанізаваны. Ён быў абсталяваны дзвюма паравымі машынамі, паравым катлом, меў водазабеспячэнне, а таксама леднік для захавання піва. У 1913 годзе тут працавала 50 рабочых і ў сярэднім выпускалася каля 100 тысяч вёдраў піва ў год.

На гэтым жа прадмесці ў 1870 годзе быў заснаваны яшчэ адзін піваварны завод, які ў пачатку нашага стагоддзя меў тры паравыя рухавікі. На ім працавала каля 50 рабочых і выпускалася прыкладна 150 тысяч вёдраў піва ў год. Вядома, што ў гэты час уладальніцай завода была Э.Яннік.

Вядомы магілёўскі краязнаўца І.Філіповіч сцвярджае, што на каталіцкіх могілках знаходзяцца пахаванні Яннікаў і Лекертаў у адной агароджы. З гэтай нагоды ён выказаў меркаванне аб сваяцтве ўладальнікаў найбуйнейшых піваварных заводаў у Магілёве. Завод Яннікаў адлюстраваны на адным са здымкаў пачатку нашага стагоддзя, што змешчаны ў экспазіцыі абласнога краязнаўчага музея. Побач знаходзяцца фірменныя бутэлькі завода з пяццю медалямі з розных выстаў. Зразумела, што магілёўскае піва сапраўды было лепшым, калі заслужыла гэтыя ўзнагароды.

І апошняе, на што хацелася звярнуць увагу. Калі свае смакавыя якасці магілёўскае піва яшчэ да нашага часу не згубіла, дык узровень падачы прадукцыі даволі нізкі. Няма сваіх фірменных бутэлек, як гэта было раней і якія, дарэчы, маюцца на шматлікіх заводах былога Саюза. З тых этыкетак-эмблем магілёўскага піва можна прызнаць вартай толькі "Машэку". Астатнія выкананы на даволі нізкім узроўні, а этыкетка "Магілёўскае" з'яўляецца сапраўдным здзекам з герба горада, які, дарэчы, зацверджаны гарвыканкомам. (Апошняму варта прыняць пастанову, якая будзе рэгламентаваць выкарыстанне герба ў камерцыйных мэтах). А ўсё гэта твар, гонар вырабу, які з'яўляецца сапраўды традыцыйным у Магілёве.

**Зміцер ЯЦКЕВІЧ.**

## СПОРТ

### ВАКОЛ АЛІМПІЯДЫ

Калі нашы чытачы атрымаюць гэты нумар газеты, у Лілехамеры пачнуцца XYII зімовыя Алімпійскія гульні. Ужо зафіксаваны своеасаблівы рэкорд: у Нарвегію адправіліся больш 2 000 спартсменаў з 80 краін свету.

Асобнай камандай упершыню выступіць зборная Рэспублікі Беларусь. У Лілехамер яна адправілася загадзя, за некалькі дзён да адкрыцця спаборніцтваў. Напярэдадні спартсменаў прыняў Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч. Ён пажадаў нашай камандзе ўдалых стартаў, запэўніў, што з боку ўрада будзе аказана ім і ўвага, і падтрымка.

Дарэчы, аб'яўлена, што лепшаму спартсмену Беларусі, які вызначыцца на Алімпіядзе, будзе ўручаны легкавы аўтамабіль замежнай маркі.

Хутчэй за ўсё (рызыкнём зрабіць прагноз): ён дастанецца каму-небудзь з біятланістаў. Успомнім іх нядаўнія перамогі на розыгрышах Кубкаў свету, перадалімпійскіх міжнародных стартах. Прычым выйгравалі гэтыя спаборніцтвы і дарослыя, і юніёры.

Можа парадуе нас і шматразовы чэмпіён свету ў бегу на каньках Ігар Жалязоўскі, які дагэтуль не заваёўваў залатых медалёў на Гульнях... Чакаць засталося нядоўга. Ужо ў наступным нумары мы назавём беларускіх спартсменаў, якія вызначыліся на Алімпіядзе ў Лілехамеры.

### ЗАСТАЛОСЯ ТОЛЬКІ ВОСЕМ

...самых моцных шахматыстаў, якія працягнуць барацьбу за званне чэмпіёна свету. І сярод іх мы з прыемнасцю называем імя мінчаніна Барыса Гельфанда. Ён у васьмі сустрэчах адолеў гросмайстара з Англіі Майкла Адамса з лікам 4,5:3,5 ачка і выйшаў у наступны круг. Тут у барацьбу за выхад у паўфінал яго чакае расійскі шахматыст У. Крамнік.

### ТО УЗЛЁТ, ТО ПАДЗЕННЕ

Нялёгкі лёс у алімпійскай чэмпіёнкі па кулявой стральбе Ірыны Шылавай з Гродна. Спартсменка на розных спаборніцтвах выступае няроўна: то перамога, то спад.

І таму першае месца, якое заняла яна нядаўна на міжнародных спаборніцтвах Гран пры ў Фінляндыі, ізноў парадавала аматараў спорту Беларусі. Вынік Ірына паказала вельмі высокі: 398 ачкоў з 400 магчымых.

### ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"!

**Нагадваем, што з 10-га лютага адкрыта падпіска на другі квартал на перыядычныя выданні, што выходзяць у Рэспубліцы Беларусь. Гэта кампанія будзе праходзіць толькі да 10-га сакавіка.**

**Чытачам "Голасу Радзімы", што жывуць на тэрыторыі Беларусі, паведамляем, што кошт падпіскі на нашу газету на другі квартал складае 960 рублёў.**

**Падпіску можна аформіць па месцу жыхарства ва ўсіх паштовых аддзяленнях. Індэкс "Голасу Радзімы" -- 63854.**

**Калі ўзнікнуць нейкія праблемы з падпіскай, просім звяртацца (пісьмова і вусна) непасрэдна ў рэдакцыю.**

**Загадзя дзякуем вам за падпіску на "Голас Радзімы".**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
Індэкс 63854. Зак.180.
Падпісана да друку 14. 2.1994 г.